Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумру 15 г.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 1 (15) | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **Вільня, Людвісарская 8—8.** | Вільня, 16-га студзеня 1934 | **Выходзіць два разы ў месяц.** | Год II.

Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » | у ½ года—1.30 у 1 год —2.50 | Konto P.K.O. Nr. 144.511 Уласьнік конта—Інж. А. КАРПОВІЧ.

## Адкрытымі вачыма.

6 год амаль прайшло ад тае хвілі, калі бурны грамадаўскі рух, які прабудзіў да палітычнага жыцьця сотні тысяч беларускіх працоўных, *прымусіў* адкрыць свае сапраўднае абліча паноў Луцкевічаў—Астроўскіх — Трэпкаў — Уласавых — „беларусаў“, якія прадаюць усе жыцьцёвыя інтарэсы беларускага народу—ў жаху перад масавым рухам пагражаючым іх існаваньню на-роўні з існаваньнем усіх пануючых.

Цяпер, пасьля шасьцігадовага пэрыаду, ізноў перажываем падобную хвіліну.

У 14 нумары „Бел. Газэты“ мы ўжо ўспомнілі аб агідным, прадажніцтве Дварчаніна. Паводле вестак ня-толькі Дварчанін, але і Бурсэвіч—быўшы генэральны сэкрэтар Грамады, і быўшыя паслы Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Гаўрылюк, Валошын Кахановіч—арыштаваны ў БССР, бо выкрыта іх супрацоўніцтва з ворагамі нацыянальна-вызваленчага руху і іх актыўная шкодніцкая дзейнасьць у БССР. Гэтыя людзі па-просту былі заступнікамі Луцкевіча—тым больш шкоднымі, што больш замаскаванымі!

Ня хочацца і цяжка паверыць. Аднак гэта праўда, а праўдзе трэба глянуць проста ў вочы. Трэба з гэтых фактаў зрабіць вывады, тым больш, што справа ня-толькі ў быўшых паслох, якія ўжо даўно не іграюць чыннай ролі ў нашым жыцьці, але і ў шэрагу зьявішчаў нашага штодзеннага жыцьця на Заходняй Беларусі. Адным з найбуйнейшых з іх зьяўляюцца апошнія падзеі ў ТБШ.

У радзе стацьцей мы ўжо высьвятлілі, якімі спосабамі робяцца натугі ўцягнуць ТБШ на шлях супрацоўніцтва з палянізатарскімі арганізацыямі, якімі спосабамі робяцца натугі зьвязаць ТБШ з няпрошанымі апякунамі беларускіх масаў. Праваднікам гэнае палітыкі зьяўляецца *Марцінчык*, са сваёй «слаўнай» рэзалюцыяй аб «супрацоўніцтве», *Шырма* ў Вільні, які праз «Летапіс ТБШ» стараўся прышчапіць масам луцкевічаўскую ідэолёгію, які будучы на становішчы сэкрэтара Гал. Управы ТБШ займаецца ў ёй ціхім сабатажам дзякуючы чаму Гал. Управа ня толькі нічога не робіць для арганізацыі новых гурткоў, але і затрымлівае ініцыятыву масаў у гэтым напрамку. Праваднікамі гэнае палітыкі зьяўляюцца Лукашык і яго дапаможнікі ў Беластоку.

І вось, зьвязваючы ўсе гэтыя справы ў адно суцэльнае — бо сапраўды нельга аддзяліць, як паводле палітычных мэтаў, так і паводле спосабаў дзейнічаньня — быўшых паслоў ад Марцінчыкаў і Шырмаў, трэба зрабіць наступныя вывады:

1) Так, як не ўдалося паном Луцкевічам, Дварчанінам, так і не ўдасца Марцінчыкам і Шырмам спыніць масавы рух беларускіх працоўных. Але гэтыя элемэнты шкоднічаюць. Тармозяць. Чым больш рашуча іх выкінем з грамадзкага жыцьця, чым больш рашуча будзем змагацца супроць іх уплывам, тым хутчэй пойдземо да асягненьня мэтаў працоўных масаў.

2) Не скажам у балючым разачараваньні да быўшых правадыроў: „некаму больш верыць“— думку якую падсоўвае масам белхадэцкая „Крыніца“. Масы ніколі ня верылі адзінкам — як багатырам якія „прынясуць“ вызваленьне, як хацеў-бы хадэк Клімовіч, пішучы ў „Крыніцы“ стацьцю „Вітаем“, у якой прадстаўляе ксяндза Станкевіча „звыш пасланым збаўцай“, які вызваліць наш бедны беларускі народ. Не! Масы вераць не ў звыш пасланых правадыроў, але ў свае ідэі, у свой выпрабаваны шлях і ад гэтай веры і ад гэтага шляху не адступяць. На мейсца здраднікаў яны самы з пасярод сабе вылучаць новых правадыроў з свайго рабоча-сялянскага асяродзішча і пад іх кіраўніцтвам пойдуць да лепшага заўтра.

3) У абліччу ўзмоцненай актыўнасьці ворагэў абавязкам кожнага сьвядомага, шчырага рабочага, селяніна, працоўнага інтэлігэнта зьяўляецца яшчэ больш актыўна працаваць на грамадзкай ніве і, праводзячы сваю працу, не даваць асьляпляць сабе прыгожымі славамі таго ці іншага дзеяча, але пільна сачыць за яго чынамі, сачыць за ўсімі справамі нашага жыцьця **адкрытымі вачыма.**

* * *

На шляху змаганьня за свае вызваленьне беларускія працоўныя гушчы адбываюць паступовае разьвіцьцё ў адным і тым самым напрамку: *расьце сьвядомасьць гэтых гушчаў наагул і сьвядомасьць таго, што інтарэсы беларускіх працоўных масаў супярэчны з інтэрэсамі беларускіх заможніцкіх клясаў, а роўналегла з гэтым, і як вынік узросту гэтае сьвядомасьці, адкідаюць ад сябе ўсе тыя групы і адзінкі, якія хочуць накіроваць іх на шлях згоды з ворагам, або— прыкідваючыся шчырымі абаронцамі працоўных — самі супрацоўнічаюць з ворагамі за плячыма народу.*

Не заўсёды масы адразу пазнаюць хто свой, хто чужы. Але, крыху раней ці пазьней, здаровае пачуцьцё працоўных і размах іх барацьбы прымушае дагэтуль замаскаваных ворагаў адкрыць свае сапраўднае аблічча і тады—як шкодную траву народ адкідае іх далёка прэч.

Кожын такі факт зьяўляецца глыбокім — часта балючым перажываньнем у жыцьці масаў. Але ў аканчальным выніку — гартуюцца рады і ачышчаныя ад варожых элемэнтаў становяцца больш здольнымі простабежна ісьці да асягненьня свайго вызваленьня. Кожны такі факт зьяўляецца *перамогай* масавага руху. Такой перамогай зьяўляюцца і апошнія падзеі.

## Нашым братом у Францыі.

**У фонд „Беларускае Газэты“ 9,31 зл. ад Вас атрымалі. Шчыра дзякуем. Заклікаем пашыраць усюды адзіную работніцка-сялянскую газэту Заходняе Беларусі, а таксама да актыўнага ўдзелу ў ёй, высьвятляючы сваё жыцьцё.**

**Зварачваемся да ўсіх працоўных Беларусаў, якія знаходзяцца ў Амэрыцы, Бразыліі, Канадзе, Бэльгіі, Чэха-Славацыі, Латвіі і іншых краінах узяць прыклад са сваіх братоў у Францыі і прыйсьці з агульнаю дапамогаю свайму ўласнаму друку, якім зьяўляецца „Бел. Газэта“.**

## Паляваньне Дыплёматаў на Зах. Беларусі

Варшава ПАТ 10. І. 34 г. Заўтра, 11 студзеня ў Белавежскай пушчы адбудзецца паляваньне, у якім на запросіны пана Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай возьмуць удзел: пан прэм'ер Енджэевіч, маршалак Сэнату Рачкевіч, булгарскі міністар земляробства пан Каллан, нямецкі пасол фон-Мольтке, Чэхаславацкі пасол д-р Гірса, Аўстрыйскі пасол Гоффінер, Румынскі пасол Кадэрэ, віце-прэзыдэнт Гданьскага сэнату Грэйсер, гэнэральны камісар Рэчыпаспалітай ў Гданьску міністр Папее. Гэнэралы: Сасноўскі, Фабрыцы, Траяноўскі, ваявода Касьцелкоўскі, дырэктар дыплёматычнага пратаколу Ромэр, шэф вайсковага габінэту п. Прэзыдэнта палкоўнік Галгоўскі; дырэктар дзяржаўных лясоў Лёрэт і іншыя-

Пан Прэзыдэнт Р. П. разам з падарожнымі *яму*, сёньня па палудні з усходнага вакзалу ўжо выехаў.

## Лес шуміць.

Забастоўка лесных работнікаў на Беласточчыне і Гарадзеншчыне, якая пачалася ад аднае вёскі, з пачатку ахапіла 30-40 асоб, сёньня яна пашырылася аж на 41 вёску, з агульнай лічбай да 2000 чалавек. Ахоплены ёю надлесніцтва: Супрасльскае, Валілскае, Сакольскае, Крынскае і Ялоўскае. Тут працавала пераважна селянская бядота, тыя хто: «бязмерна рад, што хлеба скромнай мерай мо' хопіць да каляд», як аб іх пісаў наш малады паэта *П. Граніт.* Пад прымусам «скромнае меры» гэтыя людзі цягнулі пілу, бухалі сякерай ад рана да цёмнае ночы за 80 гр., злот і самае большае два злоты.

Дамаганьні выстаўленыя праз бастуючыя не вялікія, гэта 50% надбаўкі заработнае платы, права на гальлё, на пашу ў летку і аплату за ачыстку дзелянкі для распрацоўкі (25 зл. за гэктар), якую дагэтуль былі, змушаны рабіць задарма. Вось гэтыя дамаганьні рашылі бастуючыя сяляне абстаіваць аж да перамогі.

З самага пачатку забастоўкі, застосоўваюцца суровыя меры проціў „працуючых“. Аднаго другога пабілі, некаторым паламалі пілы, адбіралі сякеры, а ў самага ўпартага з в. Радуліна, які сьведама зрываў дамаганьні работнікаў-сялян, згарэла гумно з усім збожжам, іншы зноў раніцаю знайшоў свой воз, але без калёс, бо былі павыламаныя ўсі спіцы. Той, які згарэў кажа: «Што шукаць вінаватага няма чаго, сам вінаваты, бо пайшоў проціў усіх».

У хуткім часе паліцыя прыняла ўсе захады, каб даць магчымасьць працаваць ізноў набраным. Пры гэтым не абышлося бяз арыштаў з сярод тых, якія станоўча дамагаюцца палепшаньня варункаў свае цяжкое працы. Каб перашкодзіць у працы ня прошаным «гасьцям», бастуючыя вымазаныя сажаю, альбо панадзяваўшы чорныя маскі ідуць па дарогах, дзьлянках, адбіраюць пілы, рэжуць гужы, вязі ў саней, скідаюць штукі, а калі хто супраціўляўся, дык і «патурбавалі».

Па вёсках пабегла навіна, што ў ваколіцы зьявіліся якіясь чорныя людзі—празвалі іх «Калмыкамі»—і палохуюць усіх, хто прабуе сарваць забастоўку. «Ты глядзі – кажуць сяляне—паедзеш у лес, пападзеш у рукі «калмыкам», то паляцяць гужы і набэдрыкі...»

І калі 27 сьнежня са станцыі Валілы і тартака разам з надлесьнічымі і гаёвымі пры трох-чатырох паліцыянтах на дзялянку прыехаўшыя 60 работнікаў з тартака прыступілі да працы, па вёсках загудзела як у вульлі і той дзень бастуючыя выйшлі без чорных масак. Ад Студзянкі пачалі, праходзілі па другіх вёсках..., забіралі з сабою ўсіх. Кожны йшоў трымаючы нешта ў руках. З апошняе вёскі выйшла больш 300 чалавек. Падыйшоўшы да мейсца, дзе працавалі гаёвыя з прывезенымі людзьмі — разсыпаўшысь у розныя бакі, пачалі іх абкружываць. Угледзеўшы гэта, „працуючыя“ пачалі ўцякаць, але ўжо было запозна, бо апынуліся ў „пляну“. Тых, хто вырваўся, лавілі і цягнулі ў круг, які моцна сьціскаўся на вокала стрэльцаў, гаёвых і рэзэрвістаў. Некаторыя сталі супраціўляцца, трох з іх „патурбавалі“, сем піл дзяржаўных паламалі і атрымаўшы перамогу, трымаючы ў кругу „пленных“, як на вайне, пракрычалі некалькі разоў „ура“, няхай жыве забастоўка! Няхай жыве саюз работнікаў лесу!“ Потым крычалі тое самае і „пленныя“. Калі выпусьцілі іх з круга, то ўсе як мага пабеглі да паравоза, каб хутчэй ад'ехаць назад, але і тут няўпарадку — няма вады... Бастуючыя прылажылі сваю руку. Нёсся бадзёры гоман з соцен сялянскіх вуснаў... Яны разыходзіліся ў дзесяткі раскінутых вёсак. Лес шумеў, спатыкаючы сумеркі ночы і хаваючы сваім гальлём засыпаныя сьнегам штукі экспортнага лесу, якога чакаюць тартакі, замежныя фірмы—церпяць заказы, а лес шуміць, нясе сваю гутарку стройных хвояк у Белавежу, Гайнаўку, Пружаншчыну, Слонім па высокіх барох і дзелянках, дзе селянін-работнік стаіць на сваім кажучы: „Мы пераможам“—пэўнасьці тут, як ніколі.

*Б-на.*

## Камунікат.

Управа каапэратыву Выд. Асьв. Т-ва «Сяўба» гэтым паведамляе ўсім, каторыя прыслалі пісьма з просьбаю выслаць ім газэту „Сяўба“, што выдавецтва часопісі ня магла пачаць з прычын ад управы незалежных. У найхутчайшым часе ўсе фармальнасьці, зьвязаныя з выдавецтвам часопісі будуць выкананы і нашая, найтаньнейшая ў Зах. Беларусі часопіс пабачыць сьвет. Управа „Сяўбы“ вышле газэту ўсім, каторыя яе запрасілі, і адначасна заклікае другіх прысылаць нам запросы на газэту.

Каб ня было матар'яльных перашкод у выдавецтве — просім усіх сьведамых грамадзян зьбіраць ахвяры, якія ў будучыне будуць залічаны на падпіску.

*Управа „Сяўбы“.*

# Шлях ачышчаецца.

*(Уражэньні са Зьезду Т-ва Бел. Шк. ў Беластоку).*

### Кажухі—валенкі—буркі.

Беласточчына—найдалей на захад высунутая частка Зах. Беларусі. Беласток — прамысловы цэнтр, пульс рабочага руху нашага краю. Рубеж і сэрца. Найбольшы націск і найбольшы адпор.

Т-ва Б. Ш. ў Беласточчыне –гэта ўзор працы і барацьбы, прыклад варожых наскокаў і энэргічнага адбою, скамплікаваных ды хітрых манэўраў і простых дзеяньняў кіраўнікоў рабоча-сялянскай культурнай арганізацыі. Паміма здрады і прадажнасьці паасобных адзінак—асноўны шлях застаўся і застаецца адзін і той-жа, вядучы перадавых людзей да новых перамог над ворагам сьведамасьці народных мас.

У такіх варунках, зьезд Т-ва Б. Ш, які адбыўся 17 сьнежня 1933 г. ў Беластоку, мае асаблівае значаньне. Ня толькі таму, што меў падсумаваць гадавую працу Т-ва ў Беласточчыне, ня толькі таму, што на яго дзенным парадку стаяла — адна з найбольш балючых –школьная справа, але і таму, што ён меў паказаць сваё адношаньне да таго, што сталася і да тых, хто ня так як трэба адносяцца да таго, што сталася.

Зьезд сабраў на пачатку больш 40 чалавек. Лік гэты пры канцы дайшоў да 100. Кажухі, буркі, валёнкі. Смуглыя і худыя твары з адбіцьцём цяжкае працы. Блеск вачэй сымболізуе барацьбу за асьвету, за вызваленьне.

Дэлегат Галоўнае Управы, Ф. Стэцкевіч прывёз новы нумар „Летапісу“. Прыехаўшая барацьбяная вёска кінулася на яго старонкі — шукаючы становішча, якае заняла Галоўная Управа ў сваім воргане па тым, што сталася. Яго няма. Маўчаньне. Зразумелі, што тут больш чым маўчаньне. Тут не бездарожжа, але выразнае пакрыжаваньне дарог. Выразнае разыходжаньне дарог. Галоўная Управа ня мае больш маральчага права прэтэндаваць на рэпрэзэнтацыю Т-ва...

Выбіраецца прэзыдыум. За стол садзяцца сялянскія постаці. Сэкрэтаром паэт—Юравец. Вось хто рэпрэзэнтуе Т-ва. Бо ня выбранымі засталіся між іншым прадстаўнікі Галоўнай Управы: Ф. Стэцкевіч—15 галасоў, П. Кізевіч –7 галасоў. Тэбэшоўская маса паказала, што яна мае свой шлях, шлях, з якога зыходзяць нявыбраныя кандыдаты.

### Дарэмная спроба.

Чытаецца пратакол прошлага зьезду, сфалшаваны В. Лукашыкам. Я. Грэсь прапануе застанавіцца над праўдзівасьцю закідаў зробленых у „Бел. газэце“. Для зьезду няма ў гэтым сумліву. Ён моўчкі прыймае прапанову Грэся. Зьезд з увагаю і адабрэньнем слухае выясьненьні старшыні аб тым, што Акружная Управа ў поўным сваім складзе прызнала артыкул „Тэбэшоўца” ў „Бел. газэце» слушным і пратакол сфалшаваным. В. Лукашык ёрзае, ірытуецца.

Некалькі разоў просіць голасу. Старшыня адмахіваецца ад яго як ад надаедлівай мухі. Нарэшце Лукашык дабіваяцца да голасу: пратакол не сфалшаваны. Кожны можа пераканацца, як гандляр крычыць Лукашык, што ў ім няма нічога выкрэсьлена (не напісанага і выкрэсьліваць ня трэба — казалі яму ў Беластоцкім Гуртку Т-ва). Словы Лукашыка адскаківаюць ад зьезду, як гарох ад сьцяны. Ніхто не хацеў нават адказваць. Зьезд, глухі на яго тлумачэньні. Ён прыймае да ведама пастанову Акружной Управы аб тым, што Лукашык сфалшаваў пратакол, схаваў ад працоўнага грамадзянства здрадніцкае выступленьне Марцінчыка.

Па пытаньню Лукашыка ўзяў голас Ф. Стэцкевіч. Выступленьне яго ня можна назваць выступленьнем прадстаўніка Гал Управы. Ён гаварыў як адвакат, як тыповы судовы абаронца: „па гэтым пытаньні, казаў, аднолькавай думкі ў самай Акружной Управе няма. Таму няхай гэтая справа застаецца так як ёсьць“. Ні туды ні сюды. Кізевіча агулам ня было на зьездзе. Ён не заікнуўся ў гэтай справе.

Лукашык, Грэсь, Стэцкевіч і Кізевіч—ня былі ўдзельнікамі зьезду. Зьезд думаў і рабіў адно, яны другое. Гэта ня выпадковае разыходжаньне ў адной нейкай справе. Пералічаныя асобы—гэта кідалася ў вочы—былі не прадстаўнікамі, якія прыйшлі праводзіць лінію, працілежную той, якой кіраваўся зьезд. Яны мелі за сабою адных, зьезд другіх. Са зьездам працавалі дэлегаты Праф. Саюза ў Спажывецкай і Адзяжовай Прамысловасьці, дэлегат Праф. Саюзу Шаўцоў, хоць іх выступленьне агранічылася да кароткага, братэрскага прывітаньня. За плячыма зьезду стаяла рабочая кляса Беластоку, выражаючы сваю думку славамі прывітаньня ад Праф. Саюзу Шаўцоў: „салідарызуемся з Вамі ў кожнай Вашай справе, бо ведаем, што супольным фронтам і ў адным шэрэгу пераможам усе перашкоды і супольна дойдзем да перамогі“. Хто стаяў за плячыма Лукашыка і яго адвакатаў?...

Сытуацыя на зьездзе была ясная і такой засталася паміма ня толькі ўсяго, але і аднаго. Іменна. Прадстаўнік улады п. Высакінскі заяўляе, што ўважае дзеяльнасьць Т-ва ня толькі ня шкоднай, але і карыснай, калі яна будзе вясьціся ў межах статуту. Па яго думцы, пратакол прошлага зьезду сфалшаваны і ён пацягне да судовае адказнасьці В. Лукашыка. Лукашык горда заяўляе, што ён ад адказнасьці не ўхіляецца. Лукашык сквапна бярэ на сябе дараваную яму ролю мучаніка, якая мае аслабіць дэмаскаваньне яго шкоднасьці ў ТБШ. Лукашыку прад‘яўляецца ратунак у спрытным манэўры і ў дэзор‘ентацыі Зьезду. Дарэмныя аднак спробы...

### І тут ёсьць беларусы.

Справаздача з мейсц. Беластоцкі гуртокня мог выказацца праз свайго дэлегата большай працай. Замест гаго, каб даць сапраўдныя прычыны заняпаду ў працы, яго дэлегат выбеліваў Лукашыка, зазначаючы, што ён хоць і занядбаў бібліатэку і касавасьць, але ў канцы ўрэгуляваў усё. Дэлегат прамаўчаў аб тым, як Беластоцкі Гурток выкідаў з сваіх радоў Лукашыка.

Усё бяз вынятку гурткі Беластоцкага павету сьцвярджалі цяжкія матэр‘яльныя варункі працы.

Тапільскі гурток сабраў 53 дэклярацыі на родную школу. „Хоць закон, на падставе якога складаюцца дэкляpацыі і ня мае сілы ў Беластоцкім павеце, казаў дэлегат, але няхай ведаюць, што тут ёсьць беларусы, што яны хочуць роднай школы, што яны вядуць за яе барацьбу“. Гурток пацярпеў ад пажару вёскі. У гэтай справе была ўложана адозва да ўсіх сяброў і разам з рэзалюцыяй аб шкодніках у іх гуртку перададзена праз Лукашыка ў Акружную Управу. Аб гэтых аднак дакумантах ані Акружная ані Галоўная Управа нічога ня ведае. Дэлегаты з Ваўкавышчыны свае справаздачы запоўнілі фактамі перашкодаў у працы. Большасьці гурткоў забараняецца пастаноўкі спэктакляў з увагі на небясьпечнасьць і публічны супакой. Праводзяцца частыя і, як сьцвердзіў на зьездзе прадстаўнік улады, безпраўныя рэвізіі. Найбольш церпіць з усяго гэтага Гарбачоўскі гурток.

Гурткі з горадзеншчыны, як нядаўна паўстаўшыя—толькі пачынаюць разгортваць працу.

Справаздачы дэлегатаў накрэсьлілі шырокі вобраз працы і барацьбы. У іх словах чуўся бадзёры настрой, сьмелую волю ламаць усе перашкоды, якія стаяць на шляху культурна-вызваленчага руху. Трэба падкрэсьліць, што ніводзін гурток не спаслаўся на помач у сваёй працы Галоўнае Управы. Праца вялася самастойна.

### Зьезд—Школа.

На парадак дня пастурае школьная справа Яна электрызуе ўсіх. Дзеці ў Пяшчаніках ходзяць 3 кілёмэтры да польскае школы. Прастуджваньне і хваробы—сталае зьявішча. У выпадку незьяўленьня дзяцей у школу — бацьком накладаюць вялікія кары. Старшыня б. Акружной Управы гр. Кандрусік падае факты, якія кажуць аб тым, як польскія вучыцялі збыткуюць з роднае мовы, абзываюць дзяцей ,,хамамі“ і ,,бальшавікамі“ за тое, што яны гутараць па беларуску. З шматлікіх вуснаў падаюць гарачыя словы заклiку барацьбы за родную школу на кошт ураду. У канцы аднагалосна прыймаецца школьная рэзалюцыя, якая падсумоўвае дыскусію ў гэтай справе, сьцвярджае амаль поўную бязчыннасьць Галоўнай Управы ў барацьбе за родную школу і пералічае канкрэтныя жаданьні, навокал якіх трэба вясьці барацьбу за асьвету ў роднай мове.

### Крытыка чынам.

На зьезд прыехалі сяляне, адбываючы ў найбольшыя морозы дзесяткі кілёмэтраў. Зьездам кіравалі не асобы патэнтованыя на дзеячоў, але самі ўдзельнікі. На зьездзе ня было патрэбнай крытыкі ані Стэцкевіча, ані Шырмы. Але хто хоць больш менш мог унікнуць у настрой, у душу сабраных тэбэшоўцаў—той чуў гэтую крытыку ў кожным слове. Бо-ж гэта былі словы барацьбы, а не хістаньня і маўчаньня, словы працы, а не марматаньня і нараканьня.

Зьезд закончыўся магутным сьпевам гымну „Адвеку мы спалі“. Яго чулі сабраўшыяся рабочыя, якія чакалі на спэктакль. Беластоцкі Гурток ТБШ паказаў, што выкінуўшы з сваіх радоў Лукашыка ён расчысьціў дарогу да працы. Драма „Лес шуміць“ зрабіла вялікае ўражэньне на гледачоў, міма цяжкіх варункаў пастаноўкі. Ня дрэнна зарэпрэзэнтаваўся гр. Богуш з невялічкім хорам. Урэшце нязьлічаныя апладысмэнты і бісы выклікаў у слухачаў гр. Юравец дэклямацыяй вершаў, як зазначыў сам, сваёй уласнай фабрыкацыі.

*К. Шэры.*

---

*Папраўкі.* У № 14 ,,Белар. Газэты“, пад загалоўкам ,,На рубяжы гадоў“ напісана: даведваемся што ў Менску Дварчанін выкрыты, як актыўны шкоднік Савецкае Беларусі і вядомы вораг нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. А павінна быць... як сьвядомы вораг нац.-вызваленчага руху і г. д.

У гэтым-жа нумары пад загалоўкам ,,Палітычныя мэтм апалітычнага воргану“, напісана: Клімовіч захопліваючыся маною гісторыі і г. д.,— трэба: Клімовіч з захапленьнем малюе гісторыю і г. д...—

# Аб гмінных бюджэтах.

У студні месяцы пачынаюць распрацоўвацца, абгаварвацца і прынімацца па гмінных радах гмінныя бюджэты.

Ужо сёньня трэба, каб радныя падгатовіліся да гэтага. На грамадзкіх сходах, кожны радны павінян шырака абгаварыць саўмесна з сялянамі ўсе патрэбы і бюджэт свае вёскі, выходзячы з штодзеннага жыцьця грамады працоўнага сялянства.

А бед у нас многа. Цяжкія варункі так і ціснуць за горла... вялізарнае бязрабоцьце, адсутнасьць зямлі, няўраджай голад на Палесьсі і Віленшчыне. Яшчэ больш даюць адчуваць сябе. З гэты ўмоў і трэба выходзіць пры складаньні гміннага бюджэту.

Важным пытаньням павінна быць адсутнасьць роднае школы на кошт дзяржавы; матэр‘яльнае становішча дзяцей, якія прымушаны хадзіць за 2-4 кілямэтры ў чужую школу і марнець там ад рана да вечара за чорствым сухім кавалкам хлеба без гарачае стравы; адсутнасьць лекарскае дапамогі.

Вось такія справы павінны бараніцца кожным гмінным радным на бюджэтнам паседжаньні гміннае рады. Зусім ня дрэнна, калі ў гэтую справу будзе ўцягнута ўся грамада.

Якія-ж пункты неабходна ўключыць у плян гміннага бюджэту. Тут рэцэпты даць ня можна— ў кожным мейсцу свая балячка, але з аснаўных мяйсцовых балячак і трэба выходзіць. Трэба выставіць наступныя пытаньні і дамагацца асыгнаваньня сродкаў на гэта: 1. для безпрацоўных; 2. дапамога галадаючым; 3. насеньне бедным і пацярпеўшым ад няўраджаю; 4. на беларускую школу ў сваёй вёсцы; 5. дапамога бедным вучням, як дармовае абуве, адзежа і ежа: сьнеданьне і гарачыя абеды ў школах; 6. дармавыя кніжкі і пісьменныя прылады; 7. на культурна-асьветныя арганізацыі, як ТБШ, бібліатэкі, курсы для дарослых; 8. дармавое лячэньне для сялян; 9. запамога старым і інвалідам працы.

На месцы, сябры, відней і абгаварываючы гэтыя пункты на сходах грамад у вясковай хаце, дзе відаць усё як на далоні, можна абгаварыць шырэй. Трэба толькі, каб каля гэтага была заразжа распачата грамадзкая праца. Кожны радны, прыйшоўшы на бюджэтнае паседжаньне павінен дамагацца ўключэньня гэтых пунктаў у гмінны бюджэт. Тут трэба ўказаць адкуль гэтыя сродкі ўзяць, на каго пералажыць падатковы ціжар. Адначасова не дапускаць на асігнаваньне сродкоў для арганізацыі, дзейнасьці якіх зьяўляецца шкодны для беларускага працоўнага народа.

Справа гмінных бюджэтаў зьяўляецца надзвычай важнай справаю, ёю павінна без‘адкладна заняцца ўсё сьведамае грамадзянства начале з грамадзкімі і гміннымі раднымі.

*Стары Радны.*

---

# Сьценная газэта.

Роля друкаванага слова ў жыцьці і змаганьні чалавека амаль усім ведама. Ведама, што пры дапамозе друкаванага слова можна растлумачваць шырэйшым масам аб адбываючыхся падзеях, можна клікаць на здабыцьцё перамог, групаваць грамадзкую думку навакол важнейшых здарэньняў; пры дапамозе яе можна гуртаваць грамадзкія сілы для выкананьня пастаўленных мэтаў.

У штодзенным сваім жыцьці большасьць насельніцтва ўважае, што выконваюць вышэй пералічаныя задачы толькі большыя друкаваныя на машынах газэты і зусім нядбайна адносяцца да мейсцовых варштатавых, вясковых, ці то гуртковых сьценных газэт.

Помылковасьць такога погляду будзе прызнана адразу шкоднаю, калі мы заглянем у практыку жыцьця і ў асаблівасьці ў нашых умовах.

Сьценная Газэта атрымала сваё поўнае разавіцьцё пасьля кастрычніковай рэвалюцыі ў Саветах. Там няма тае фабрыкі, прадпрыемства, дзе-б ня было свае сьценнае газэты. Яе прызвычаіліся называць „вокам будаўнічых“. „Люстэркам“ адбіваючым стан працы, адношаньне людзей да сваіх абавязкаў, гуртаваньне проціў недахопаў.

Другое мейсца па сьценных газэтах займае Нямеччына, дзе работнікі мелі іх на кожнай фабрыцы, заводзе і капальні. Нават і сёньня нямецкі пралетарыят, перад гітлероўскім тэрорам бароніць свой нізавы друк, які дапамагае яму ў барацьбе за штодзенныя патрэбы.

У нас на Заходняй Беларусі няма багатае гісторыі ў гэтай паважнай галіне працы. Былі асобныя выпадкі, нажаль, нікім і нідзе не запісанныя, зусім не падсумаваныя. Але, навет, хопіць і такіх скупых матэр‘ялаў, каб сцьвердзіць, што там дзе паяўлялася сьценная газэта, яна заўсюды прабуджала творчую энэргію работніка, селяніна; гуртавала яго, паказвала шлях наперад...

Сьвежым і вельмі дадатным прыкладам можна прывесьці сьцен-газэту „Наша Праца“, якая выдаецца Управою „Сяўбы“ ў Беластоку. Гісторыя яе нарадзінаў наступная: як толькі быў выжыты з кіраўніцтва В. Лукашык, гэтая перашкода ў работніцкім разьвіцьці, сябры ўправы ўзяліся за працу па свойму, як умеюць. На першым дзе-

# Нашае жыцьцё.

## Перамаглі і паказалі.

Больш чым за два тыдні, сябры Беластоцкага гуртка ТБШ, напружана працавалі над падрыхтоўкай да пастаноўкі «Лес шуміць». На гэты раз, меншы націск быў зроблены на афішы, затое большы—на распаўсюджваньне білетаў па фабрыках, варштатах і па знаёмых.

Драматычная сэкцыя, якая складаецца пераважна з работнікаў на чале з гарбарнікам Андрэйчыкам, праводзіла рэпэтыцыю за рэпэтыцыяй і не на сцэне, а ў невялікім памешканьні „Сяўбы". Усе былі захоплены адным—паказаць сваё мастацтва, паказаць, што цяжкасьці, штучныя перашкоды *нашы людзі навучыліся перамагаць.*

Па работніцкіх кварталах, за варштатамі, на кватэры ў суседа можна было пачуць гутарку сярод беларусаў і палякоў-работнікаў аб пастаноўцы „Лес шуміць". Спрачаліся, адзін аднаго ўгаварваў пайці... нахвальваючы сцэнічны твор...

Сёмага студзеня, на першы дзень праваслаўных каляд, да беларускага „тэатру" ад 7 — 8 гадзіны сталі сходзіцца людзі. Хутка паўнела саля, ужо а восьмай усе мейсцы былі заняты (260—270), а людзі ўсё ішлі, станавіліся ў праходах, каля сьценак і за заднім радам.

Калі адкрылася куртына ў салі было больш 300 чалавек. Сярод іх: беларусы. палякі, рускія і еўрэі. З самага пачатку ўсе былі захоплены цудоўнасьцю дэкарацыі, на якой намалёваны вельмі добра лес. Пасьля спрытная гульня артыстаў, багаты жыцьцёвы зьмест твору, выклікалі гучныя воплескі і вясёлае ўрачыстае задаваленьне.

Былі адыграны „Боты", два сябры гуртка дэклямавалі вершы, хор пад кіраўніцтвам Богуша вельмі ўдачна закончыў вечар.

Усе прысутныя надзвычай задаволеныя, разышліся да дому, ды яшчэ і на заўтра гутарылі аб „беларускім тэатру". „Беларусы паказалі— кажа работнік паляк — што ня гледзячы на перашкоды яны жывуць і могуць пахваліцца сваім мастацтвам, якое здабываюць не ў салях, а ў хатах..." „Мы да гэтага часу не даацэнівалі беларусоў — гутараць другія — гэта ж народ, маючы сваю нацыянальную культуру"!

Артысты—гуртковцы з прыподнятым настроем запэўняюць, што яны здольны яшчэ і ня гэта паказаць. Яны задаволены, што пакрылі выдаткі і маюць за сотню чыстага даходу, які пусьцяць на далейшае разгортваньне працы.

Гурток мае замер выехаць з пастаноўкаю „Лес шуміць" у работніцкую сядзібу „Чорная Весь". З часам можа будзе зусім карысным запрасіць нашых артыстаў і ў Вільню.

8. I. 34. Беласток. *Пабочны.*

**Пашырайце „Беларускую Газэту".**

## Хто яны?

Па Косаўшчыне ходзяць два „чалавекі" з СССР. Адзін называецца Табалюк з вёскі Паланека, а другі — Аляксей Германовіч з вёскі Куляны. Табалюк астаўся ў Саветах яшчэ з часоў бежанства. Займаў ён там нейкае становішча і быў вядомы па ўсей Самаршчыне як п'яніца. Нарэшце, растраціўшы дзяржаўныя грошы, стаў перад пралетарскім судом і ў 1928 годзе атрымаў 2 гады турмы, ды быў пазбаўляны права голасу. Германовіч-жа да 1925 году знаходзіўся тут, у Заходняй Беларусі. Гандляваў гарэлкаю, дзеравам, наагул любіў лёгкі хлеб. Але заўсёды на шляху сваём спатыкаў сільнейшых або багацейшых, якія выбівалі яго з каляін. І вось у 1925 годзе сын вясковага багацея, Аляксей Германовіч абвяшчае сябе „камуністым", кідае гром і маланкі на існуючы лад, потым разносіць сярод сялян чутку, што яго лічуць „вельмі небясьпечным" і пагражае яму ня менш як 8 гадоў турмы. Нарэшце бяжыць у СССР. Але там гэткую штучку пазналі хутка. Да 1928 году былі яшчэ сякія-такія магчымасьці да спэкуляцыі, што сквапна выкарыстаў Германовіч. У хуткім часе гэты жулік быў таксама пазбаўляны права голасу, як спэкулянт. Гандляваць стала немагчыма, а працаваць ён ня прывык, таму надумаў Германовіч дагаварыцца з пакрыўджаным Табалюком вярнуцца назад сюды.

Тут знайшлася адразу лёгкая „пачэсная" праца; выступае ўсюды на мітынгах, на якіх мае за заданьне ганіць Саветы.

Так выступаў нядаўна ў Ражанай. На гэтае выступленьне польскія настаўнікі і ўрадоўцы павінны былі прывясьці ня менш двох пастароньніх асоб; за выкананьне свайго ганебнага абавязку атрымаў Германовіч 10 злотых і пайшоў на Косаў. Па дарозе зайшоў недзе ля в. Бярэчніцы ў школу і там новымі жахамі палохаў дзяцей. Адзін з вучняў запытаўся: „А ці праўда, што там у школах даюць дарма кніжкі, сшыткі, алавікі, а нават і абед?" „Лектар" засьмеяўся, але ў канцы гэтак сама атрымаў 10 зал. Табалюк маўчыць. Ходзіць, і ходзіць па вёсках, ды зьбірае салому — хоча будавацца. Праўда, у Ражанай на кірмашы спаткаў Германовіча, ды кажа: „Што-ж ты сукін сын брэшаш?" І плюнуў ды пайшоў, за ім нёсься сьмех. Калі Германовіча разам з Табалюком паклікаў камэндант павятовае паліцыі, дык ён стаў і там паказываць сваё красамоўства. Камэндант слухаў, слухаў, а пасьля пытаецца Табалюка: „Пан Германовіч кламе? — „Так, пане камэнданце" — адказаў Табалюк. Камэндант дадаў: „Бо ежэлі-б так было, як расказывае Германовіч, то бальшавікам даўно быў-бы капут, а то яны жывуць і жывуць".

Такія вось у нас справы з гэтымі самымі „людзьмі з СССР". Мімавольна сьмех разьбірае. Калі глянеш на брудныя старонкі „Крыніцы", дзе галасы гэткіх „людзей" даюць хадэцкім пісаньням натхненьне для безсаромнай брахні на Савецкую Беларусь. *Запольскі жыхар.*

## Аб сваіх балячках.

(В. Дзярнякова, Беластоцкага пав.). З даўных часоў мы працавалі ў лесе, заробкі былі марныя, а арганізованасьці жаднае. У гэтым годзе сталі мы пагаварваць аб утварэньні свайго саюзу, якого ўлада доўга не хацела залегалізаваць, але ўрэшце мы перамаглі.

Потым сталі пагаварваць аб надвыжцы заработнае платы. З самага пачатку працы саюз апрацаваў цэньнік і разаслаў яго ўсюды, дзе была патрэба. Хачу паведаміць паважаных чытачоў „Б. Г.", якою была ў нас папярэдняя заработная плата. Спуск лесу і абрабленьне яго на гладко 50—60 грошай мэтр. Апал скаблёны 1 злот мэтр, а паперка 1 зл. 50 гр. мэтр. Да гэтага кожны работнік мусіў выкупіць гальлё, якое каштавала 10—15 зл. з дзялянкі.

Дамаганьні саюзу па новым цэньніку наступныя: за спуск лесу 1 зл. за мэтр, апал на бело 1 зл. 50 гр. мэтр, паперка 2 зл. 25 гр. за мэтр, гальлё павінна быць для работніка дармовым і каб кожны селянін-работнік меў права пасьвіць карову ў дзяржаўным лесе за дарма.

Але надлесьніцтва патрабаваньні саюзу адкінула, пасьля чаго 27 лістапада быў абвешчаны штрайк, які ахапіў Валілы, Остраў і Крынкі, дзе працавала больш 400 чалавек.

Тых, хто з работы ня сходзіў дык здымалі. 30 лістапада на працы быў захоплены солтыс з вёскі Нетупа, галынскае гміны і яшчэ двух чалавек, якім сталі казаць, каб кінулі працу і прыступілі да штрайку, але тыя адказалі: „Як вам мала, то вы штрайкуце, а нам даволі і мы будзем працаваць". Гэта бастуючых надзвычай абурыла.

Лесьніцтва пачало страшыць работнікаў, што набяруць з другіх мейсц і яны будуць абіраць прыгатаваны вамі лес, але штрайкуючыя работнікі стаялі на сваім. Пабачыўшы гэта лесьнічы пайшоў у в. Радуліна і давай страшыць сялян, што як не пайдуць рабіць, то вясною пажануць пасьвіць кароў у саюз, бо ён ня пусьціць да лесу. Гэтая вёска карысталася пашаю ў дзяржаўным лесе, бо свае пашы вёскі наагул ня маюць.

Знайшліся некалькі і пайшлі працаваць. 4 сьнежня ў вёсцы стаўся пажар. У Загрэбы, які працаваў у лесе згарэла стадола з усім збожжам і сенам, 5 парасят, ды яшчэ ў суседа стадола. Страты дасягнулі вялізарных размераў. Кожны сабе можа ўявіць пажар на вёсцы, да яшчэ ў гэтую пару. Калі ў яго запыталіся на каго ён мае падазрэньне, то ён адказаў: „Ня маю ні на каго, толькі адно я ашукаўся, што паслухаў пана".

Штрайк трымаецца і на далей. Але слушныя дамаганьні работнікаў, надлесніцтвы чамусьці ня хочуць споўніць,

Вазакі ў нас, гэтак сама пачынаюць пагаварваць аб сваіх балячках, кажуць што ў «еднасьці сіла». *В, Пакрыўджаны.*

## Горадня.

### З новым годам.

Ня гледзячы на прароцтвы лепшай гаспадарчай кан'юнктуры, магістрацкія работнікі, што працуюць пры разбудове Горадні, з новым годам атрымалі падарунак у пастаці рэдукцыі платы.

Да гэтага часу яны працавалі 3 дні ў тыдзень з платаю 2.50 у дзень. Ад новага году загадалі зьменшыць плату на 50 гр., так, што ў сучасны момант работнікі ў ліку 160 асоб таксама працуюць 3 дні ў тыдзень з платаю 2 залатых у дзень.

* * *

Наваградзкі акружны зямельны „urząd", які месьціцца ў Горадні, у апошнім часе звольніў 15 працоўнікоў, а з новага году мае паўторна адбыцца значна большая рэдукцыя.

* * *

З 1 студзеня на фанэрнай хвабрыцы ўласьнікаў бр. Браўн, дзе працавала 425 работнікаў, застала звольнена 225 асоб.

### Рыхтуюцца да выбараў.

Паводле атрыманых вестак выбары да Гораdзенскага самаўраду адбудуцца ў палове лютага або ў пачатку сакавіка. У сувязі з гэтым адбылося паседжаньне рады клясавых прафсаюзаў, на якім застаў прымітыўна створаны камітэт дзеля падрыхтоўкі выбарчай кампаніі.

### 50 грашовыя штурмоўцы.

З разпачацьцем зімовага сэзону, праз уладу застаў створаны аддзел штурмоўцаў працы, які складаецца выключна з адных стральцоў. Жывуць яны ў вайсковых кашарах, атрымліваюць порцыю жаўнерскае ежы, вайсковую вопратку і заплату за працу 50 граш. у дзень. Пасылаюцца яны цэлымі аддзеламі на прыватную і самаўрадавую працы.

### Выціснуты, як цытрына.

Ведамы на Горадзенскім бруку беларускі бэбэхаўскі дзеяч, што пара гадоў таму назад супольна з Аршуном выдаваў бел. газ. пад наз.

---

лавым паседжаньні, пасля гадавое бясчыннасьці, было пастаноўлена хоць памалу, але што нібудзь рабіць. Потым рашылі выдаваць сьценную газэту і прыступіць да падрыхтоўкі выдаваньня тыднёвае масавае газэты „Сяўба" коштам у 5 гр. Да выкананьня гэтага і прыступілі. Яны ўжо выдалі 3 нумары „Нашай Працы". З другога нумару пачалі прыймаць удзел масава, трэці нумар, як перадаюць, проста завалілі карэспандэнцыямі. Тэхнічная апрацоўка надзвычай простая: рэдакцыя зьбірае матэрыял, крыху папраўляе і вывешвае на сьценку. Чытаюць яе з асобым захапленьнем.

Галоўны зьмест № 2 „Н. Працы" быў скіраваны проціў В. Лукашыка. Прывядзем пару вытрымак з зьмешчаных артыкулаў у стацьці пад назовам „Успаміны". Аўтар, пад псэўданімам „Змагар", піша аб успамінах, выкінутага шкодніка так: „Час не чакае, лецяць дні адзін за другім, лецяць і беларускія ворагі адзін за другім, усёраўно, як гнілыя лісьця і бязлітасна топчуцца людзкімі нагамі". ...„Паляцеў і я з імі пад ногі бязлітасна абсьмеяны... Вось не пашчасьлівілась.., а шчасьце было так блізка, так магчыма" і далей аўтар заканчвае: „Лецяць беларусаеды „начальнікі" ў сьмярдзючы сьметнік, паляцеў з імі і *я.*"

У артыкуле „Хаўтуры", пад подпісам „Асінка", чытаем больш грунтоўны матэр'ял: ня зьбітна факты сьведчаць аб шкоднай працы Лукашыка пасярод беларускага грамадзянства. Ён шукае парады ў бел. хадэцыі, кс. Станкевіча і ўсей нацыянал-угадовай *своры*, каб супольнымі сіламі надаць як найбольшага значэньня для Б.Н.Р. В. Лукашык не лічыцца з ТБШ, як *з арганізацыяй* і хоча гурток ТБШ мець пад сваей дыктатурай. Ні раз былі чутны словы Кузьміноў, Сідаровічаў ды Лукашыкаў: „Паглядзімо, як гурток будзе працаваць, калі мяне ня будзе"... ...Сябры!—заклікае „Асінка"—павінны даць рашучы адказ... без іх падняць культурна-асьветную працу на ўзровень вышэйшы..."

Як бачыце газэта разгарнула барацьбу проці нацыяналіста шкодніка вызваленчага руху Лукашыка. У ёй прыймаюць актыўны ўдзел людзі, якія наагул ніколі, нікуды і нічога ня пісалі, прыймаюць удзел работнікі, яны актывізуюцца, вучацца, падымаюць вышэй сваю ўсебаковую сьведамасьць... Вось што зьяўляецца прыкладам карысным для ўнасьледаваньня.

Сьценная Газэта „Наша Праца" займаецца ня толькі барацьбою за ачышчэньне нацыянальна-вызваленчага фронту ад Лукашыкаў. У ёй ёсьць: здаровы выхаваўчы гумар, якім б'юць сяброў арганізацыі за іх нядбальства, неакуратнасьць, расхлябатнасьць. У карэспандэнцыі „Стойкі чалавек" мы знаходзім наступнае: „Ніхто ня сумляваецца ў тым, што самым „стойкім" чалавекам ва-ўсім сьвеце ёсьць сябра Дзямід, які ўзяўся рабіць замок для „Сяўбы", то ўжо робіць тры тыдні і ўсё кажа: „А вось пабачыце, зраблю". Верым, хоць некалькі год будзе рабіць, а ўсётакі зробіць калі небудзь. Пры такой „упартасьці" і стойкасьці няма ведама якіх цудаў можна даканаць"—заканчвае аўтар.

Што можна сказаць? проста здорава паказана „стойкасьць" Дзяміда. Паказана так, што ён не ўстаіць перад ёю і замок зробіць чым хутчэй.

Калі да гэтых усіх дадатніх бакоў, ды яшчэ дадаць тое, што пры сьцен-газэце прадстаўляецца магчымасьць гуртаваньня карэспандэнтаў, то стане зразумелай яе важнасьць і неабходнасьць, асабліва ў нас на Заходняй Беларусі, дзе наагул адчуваецца голад на друкаванае слова.

Па прыкладу ўправы „Сяўбы" павінны пайсьці гурткі ТБШ, бібліятэкі, курсы дарослых, спажывецкія коопэратывы і іншыя грамадзкія арганізацыі. Трэба, каб сьцен-газэта стала складоваю часткаю нацыянальна - вызваленчае, культурна-асьветнае працы, як на вёсцы, так у месьці, каб яна зьявілася дапаможнікам у паступовым разьвіцьці наперад. *Баравізна.*

## Віленская хроніка.

*Выступленьне безпрацоўных.* За апошні час у Вільні сталі заўважвацца актыўныя выступленьні безработных. 11-га студзеня больш 300 чалавек перад памешканьнем інспэктара працы на вул. Субач, дамагаліся захаваньня 12 дзён працы ў месяц і 3-х зл. платы за 8 гадзінны дзень працы. Гэтае дамаганьне вынікла з таго, што з 12 дзён працы, зьменшана да 4 дзён, а заробак з 3-х злотых зьменшана да 2-х зл.

Абураныя безпрацоўныя дамагаліся хлеба і працы. Былі выбіты вокны ў памешканьні інспэктара.

„Беларуская Думка“ Уладзімір Кузняцоў-Курбскі, ведамы з сваіх „літэратурных“ твораў як Бабровіч, які яшчэ не так даўно цешыўся „względem władz“, відаць ужо гэтую ласку страціў, бо перад каляднымі сьвятамі грамадзяне бачылі, як стаяў у чарзе з торбачкай, каб атрымаць пудзік мёрзлай бульбы з апекі спалэчнай. Ня памагло відаць раскаяньне ў камуністычных грахох, ані пераход на каталіцызм... (калі выціснулі ўсе патрэбныя сокі дык ідзі на сьметнік, як выціснутая цытрына).

### Забастоўка работнікаў скурнае прамысловасьці.

4-га студзеня ў м. Крынках, каля Горадні, выбухла забастоўка работнікаў, якія працуюць у гарбарнях. Работнікі дамагаюцца: 1) падвышэньня платы, 2) прыймо да працы толькі за пасрэдніцтвам прафсаюзаў. Уласьнікі гарбарняў пакульшто ня згаджаюцца на дамаганьня работнікаў. Але можна загадзя сказаць, калі яны будуць так стойка стаяць, як у папярэдніх забастоўках, дык пераможуць работнікі. *Нічыпар.*

## Беласток

### Гурток ажывае.

P. S. Паводле атрыманых намі вестак Беластоцкі Гурток Т-ва Беларускае Школы прыступіў да актыўнае працы. Драматычная сэкцыя пад кіраўніцтвам **гр. Андрэйчыка** энергічна распачала працу. **Гр. Богуш**, кіраўнік харавой сэкцыі, заўзята працуе над вывучэньнем новых беларускіх песень. Жывая і вельмі цікавая праца вядзецца ў літэратурнай сэкцыі пад кіраўніцтвам **гр. Зайкоўскага**. У праграме — літэратурныя дыскусіі, а таксама літэратурны суд.

— Газэта „Н. Время“ піша: у Беластоцкім вокрузе 10 студзеня пачалася забастоўка работнікаў, пратэстуючых проціў законаў пагаршаючых умовы працы.

Баставалі работнікі ўсіх фабрык і заводаў у Беластоку. Гэтак сама як служачыя па канторах і установах. На работу ня вышла да 4000 чалав. У гэты дзень былі астаноўлены фабрыкі ў Гарадку, Пешчанках, Васількове і Супрасьлі.

— 12 студзеня цэлы шэраг тэкстыльных фабрык у Беластоку спынілі працу з-за атсутнасьці заказаў. 857 работнікаў звольнена.

— 4 студзеня бастуючыя лясныя работнікі ў в. Шудзілава сабраўшыся перад пастарункам хацелі вызваліць арыштаваных, паліцыя пусьціла ў ход зброю, у выніку адзін забіты і некалькі ранена. Бастуючыя праводзілі дэманстрацыю, патрабуючы каб выдалі забітага для пахаваньня.

# Апошнія навіны.

## Польшча

### Новы падатак.

1-га студзеня 1934 г. ўвайшоў у жыцьцё Соймавы закон ад 17 сакавіка 1932 г., паводле катарага каталіцкі касьцёл атрымоўвае права накладаньня *прымосова* падатку на каталіцкае насельніцтва—на касьцельныя патрэбы.

Паводля закону, уводзяцца два царкоўных падатка: звычайны і надзвычайны. Звычайны прадназначаны на пакрываньне бягучых выдаткаў (савет, служба і г. д.). Гэты падатак накладаецца ў вялічыні 5 працэнтаў агульнае сумы ад дзяржаўных падаткаў. Надзвычайны падатак прызначаны на пабудову касьцёлаў, рэмантаваньне старых і г. п.

Падатак раскладаецца праз спэцыяльны ворган, які выбіраецца з пасярод веруючых. Няверуючыя (ці як у законе сказана: „асобы нядобрых звычаяў“) ня маюць права быць выбранымі ў гэтую падатковую камісію. Затое... плаціць... няверуючыя будуць прымушаны на роўні з іншымі.

Цікава, што Страніцтва Людовае, якое заўсёды праз вусны Вітасаў і Валеронаў прадстаўляе сябе абаронцамі сялян, што гэтыя самыя правадыры не выступалі супроць гэтага падатку.

І яшчэ адно цікава: духоўныя атрымоўваюць што-год з дзяржаўнага бюджэту 22 мільёнаў злотых. Але відаць ім гэтага мала...

### Ад 5 студзеня.

Варшаўская паравоза-будаўнічая фабрыка з 5 студзеня пачала зьмяншаць колькасьць сваіх работнікаў. Звольнены 40 работнікаў з кузьні, дзе агульная іх лічба дасягала 48 чалавек. Хопіць параўнаньня гэтых двух лічбаў, каб зрабіць вывад аб сур'ёзнасьці стану.

Некалькі год таму назад тут працавала 1500 асоб. З пачаткам крызісу лічба работнікаў увесь час зьмяншалася і дайшло да 670 асоб ва-ўсіх цэхах фабрыкі. Зараз згодна з паўзятым тэмпам маюць астацца ўсяго 150—180 чалавек. Такім чынам новымі сотнямі работнікаў папоўняцца шэрагі безпрацоўных.

### 10 студзеня 1934 году.

Згодна з паведамленьнямі газэтаў, на 10 студзеня агульнаю забастоўкаю ахоплена ў Лодзкім вакрузі больш 120.000 чалавек з 132.000 працуючых.

У тэкстыльнай прамысловасьці *бастуюць 90.000.* Забастовачным рухам ахоплена Гайноўка, Беласток і іншыя пункты.

Работнікі выступаюць у абарону сваіх заваёванных правоў, проціў пагаршэньня і без таго кепскага жыцьця. Беластоцкія рабочыя абвясьцілі свой штрайк, салідарызуючыся з бастуючымі лесарубамі.

### Два перыяды.

«Piast» Велікопольскі падае вельмі цікавые параўнаньне:

«На адным з астатніх сходаў—піша «Piast»—земляробаў дзе абгаварвалася сучаснае становішча вёскі, стары селянін добра памятуючы даваенныя часы і навет ваенныя цэны, прывёў шэраг прыкладаў, якія паказваюць упадак набыўчай здольнасьці насельніцтва.

Перад вайною за 100 кілё жыта можна было купіць 100кілё солі, цяпер толькі 20 кілёграм.

За 100 к-грам жыта 106 пачак махоркі, зараз толькі 17.

100 кілёграм жыта давалі магчымасьць купіць 42 кіл. жалеза, а сёньня толькі 25. Нарэшце перад вайною за 100 к-грам жыта можна было купіць добрых пару ботаў, цяпер найбольш толькі адзін бот.

Калі да гэтага дадаць, што падаткі ня толькі не зьменьшыліся, а яшчэ і павялічыліся, то стане яшчэ больш зразумелым стан, у якім апынулася сялянская гаспадарка. Што тычыцца Заходняй Беларусі, то тут пераходзіць у поўную гаспадарчую катастрофу ў руйнаваньне селянства. Такі вынік...

## Заграніца

### Адбыўся 13 пленум Камінтэрна.

МАСКВА. (ПАТ). У канцы сьнежня ў Маскве адбыўся XIII пленум Выканаўчага Камітэту Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Галоўнымі пунктамі на пленуме былі пытаньня фашызму, небясьпека вайны і камуністычная праца ў Нямеччыне.

Пленум асабліва многа ўвагі ўдзяліў папярэдняй працы нямецкай камуністычнай партыі і зацьвердзіў плян далейшай працы.

Рэзалюцыя заклікае да барацьбы з ваеннаю небясьпекаю, якая скіравана проці СССР.

Асаблівай увагі заслугоўвае інструкцыя камуністычнай партыі: „Камуністы мусяць выступаць проціў імпэрыялістычным жаданьням і гвалтам, змагацца за правы на самавызначэньня на Горным Шлёнску, Заглэньбе, Саары і ў поўначных Чэхах, не дапуская да прылучэньня тых тэрыторыяў да фашыстаўска-катаўскіх немец. Гэтая рэзалюцыя адносіцца таксама да Аўстрыі і Гданьска.

Далей рэзалюцыя абгаварвае ўнутраныя справы розных краін, найбольш затрымліваючыся на Нямеччыне.

У гэтых рэзалюцыях даецца дэрэктыва аб апанаваньні ўсякіх масавых арганізацыі, навет і фашыстоўскіх.

Указваецца на правядзеньне антываенных дэманстрацыі, на затрыманьне ваенных транспартаў і на камуністычную прапаганду ў войску.

### Японія рыхтуецца.

Японскія імпэрыялісты сілаю захапілі Манджурыю, сілаю да Манджурыі прылучылі ўнутраную Манголію і на гэтых землях яны арганізуюць Манархію, царом якое будзе Пу-і. Гэтага самага Пу-і „прымусова жэняць на аднэй з прадстаўнічак японскіх княжаскіх прозьвішчаў. Каб падмацаваць гэтую манархію, зрабіць з яе здольнага, не толькі кватэранта ў сваей хаце, але і выканаўцу плянаў японскае ваеншчыны.

Для гэтага яны ўзмацняюць свае узброеныя сілы, а ў апошнія часы прыступілі да ўтварэньня новае морскае базы ў Порт-Артуры, дзе будзе заснованы цэнтр пачыначных мастэрскіх флёты, які знаходзіцца ў водах Кітая.

У самым Порт-Артуры пасьпешна вядзецца праца. Туды ўжо прышла авіо-нэтка „Натор“, якая прывязла аж 48 бомбавозаў-самалётаў, якія бязумоўна прадназначаны для здушэньня рэвалюцыйнага руху ў Кітаі і для вайны проці савецкага саюзу.

### Яшчэ за кратамі.

Гэрынг напісаў артыкул аб ітогах Лейпцыгскага суду, дзе ён кажа; „Не звычайныя праступнікі сядзелі на лавах падсудных. Сумліўна, каб суд бачыў калі небудзь перад сабою такіх заядлых, прайшоўшых агонь і воду абвінавачаных“...

Гэтыя словы фашыстоўскага главара адносяцца да 4-х камуністаў: Дмітрава, Папова, Торглера і Танева, якія судом апраўданы, але ня гледзячы на гэта трымаюцца за кратамі. Працоўныя ўсіх краін дамагаюцца іх вызваленьня. Да гэтага заклікаем і мы сярмяжны люд Заходняй Беларусі.

### Ван-дэр-Любэ казнен.

10. І. 1934 г. вядомы з Лейпцыгскага працэсу ў справе падпалу Рэйхстагу, прысуджаны на кару сьмерці. Ван-дэр-Любэ казнен.

# Ці ведаеш, што:

× Ангэльская газэта «Таймс» піша: «Выканаўчы камітэт Камінтэрна апублікаваў падрабязную справаздачу аб сваёй працы ў Японскай арміі. Згодна гэтай справаздачы ў Японскім войску разьвіта энэргічная камуністычная прапаганда. Камуністычнаю партыяй Японіі ўтвораны спэцыяльны кіруючы ворган пад назовам—«Ваенно-рэвалюцыйны камітэт».

× Гэтымі днямі Японскія войска занялі горад Авін у самага Пекіна. Прычыну *захопу* тлумачаць пагрозаю з боку кітайскіх партызан, якія праяўляюць велікую актыўнасьць у ваколіцах Пекіна. Вядома, — што гэтым Япон. Ггнэралы тлумачылі і захоп усяе Манджурыі. Сапраўдныя мэты яшчэ больш замацавацца паступова выконваючы свой стары лёзунг «Азія для азіатаў».

× Савецкаю палярнаю экспэдыцыяю на Карском моры знойдзены новы востраў, які названы востравам імя Каліцкага, начальніка Украінскага ДПУ.

× Японскія фабрыкі самалётаў значна расшыраюцца для выкананьня новых заказаў. Бюджэт у галіне паветранае флёты павялічан на 30%, што дае магчымасьць пабудаваць 800 новых самалётаў.

× Вядомы Савецкі акуліст праф. Філатаў правёў вельмі добрую, досыць трудную апэрацыю вока. Жанчыне асьлеплай 11 год таму назад перасадзіў рагавую абалочку з вока памершага. Апэрацыя вельмі ўдалася і дагэтуль зусім сьляпая жанчына пачала бачыць на абодвы вока.

× У Сафіі (Баўгарыя) распачаўся працэс *салдат і работнікаў*, абвінавачаных у *камуністычнай дзейнасьці ў шэрэгах Баўгарскай арміі.* Агульны лік падсудных 69 чалавек. Пракурор патрабуе сьмяротнага прысуду для 20 асоб.

× У Шчэпанавіцах, у Нямецкай Сілезіі застаў забіты камэндант мейсцавых Гітлероўскіх штурмавых атрадаў Выступ.

× У Савецкай Туркменіі ўтрымліваецца надзвычай цёплая пагода. Два калгасы, як вопыт, ужо пачалі раньні сеў яравой пшаніцы.

× Працоўнікі фабрыкі вагонаў у Салопу, атрымалі паведамленьне праз саюз, што праектуецца спыненьне гэтае фабрыкі. Зачыненьне — дадае «Rabotnik»—было-б нешчасьцям усяго насельніцтва Салопу.

× Савецкія аўтамабільныя фабрыкі выканалі плян на 1933 год з надвыжкай. Выпушчана новых аўтамабіляў 49.743, плян быў складзян на 48.675, такім чынам на 1168 машын звыш пляну. Усіх трактароў адбудавана ў 1933 годзе 73.370, павінна было быць па пляну 72.500. Сабекошт застаў зьніжаны на 25%.

× Ваенныя прыпасы для Кітайскіх генэралаў у Шанхай дастаўляюць: Англія, Францыя, Чэхаславакія і Злучаныя Штаты-Амэрыкі.

У Кітай накіроўваюць галоўным чынам: пулемёты, бомбы і танкі. Так «культурныя» Эўрапэйскія дзяржавы «дапамагаюць» атсталаму Кітайскаму Народу, пасылаючы яму знарадзьдзя сьмерці.

× Прадстаўнік рэспубліканскае партыі Драйтэн у Вашынгтоне, унес у кангрэс закона-праект аб пабудове новых 100 ваенных судоў у працягу 10 гадоў. На гэта патрэбуецца 745 мільёнаў даляраў. Па амэрыканскаму, як і па агульна капіталістычнаму, гэта напэўна і *называецца „разбраеньнем“*.

× Сухапутныя апэрацыі Нанкінскіх войск падтрымліваюцца марскім флётам, каторы абстрэльвае порт Амой. Ходзяць чуткі, што Японія мае замяр умяшацца пад відам абароны інтэрэсаў японскіх грамадзян ад камуністычнае «небясьпекі».

× У Парыжы гэтымі днямі адбылася вялізарная работніцкая дэманстрацыя прад міністэрствах унутранных спраў, якая цягнулася аж да 12 часоў ночы. Падчас дэманстрацыі былі вострыя сутычкі з паліцыяй. *250 чалавек арыштавана. Есьць некалькі забітых.*

× «Работнік» падае, што цукроўня «Здуны» у павеце Кротошыньскім была зачынена. Працуючя ў лічбе 370 асоб занялі нерухомыя будынкі дзе затрымаліся, узнак пратэсту, проціў замыканьню цукроўні і распачалі *агульную галадоўку*.

× Па адтрыманым весткам, у Гамбурзе (Нямеччына) на буйным прадпрыемстве работнікі адмовіліся даць «дабраахвотные» складкі ў карысьць «Зімовай дапамогі». На другом заводзе былі праведзяны забастоўкі. На сьценах вывешаны камуністычныя лёзунгі.

× У красавіку гэтага года ў Ленінградзе адбудзяцца І-я ўсесаюзная канфэрэнцыя па вывучэньню стратасфэры. На канфэрэнцыі будуць працаваць найвыдатнейшые вучоные.

× У Румыніі, пасьля забойства прэм'ера міністра, праведзяны вялікія арэшты. Да гэтага часу арэштавана да 2000 асоб з „жалезнай гвардзіі“.

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22